 


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 8 (991) ГОД XX 23 ЛЮТАГА 1975 г. ЦАНА 60 гр.


**Пуцяводныя думкі**

Веды — гэта тое, што найбольш істотным чынам узвышае аднаго чалавека над другім.

*Д. Эдзісон*

Лёгка скрываць няпавісць, цяжэй — каханне, а найцяжэй — абыякавасць.

*Л. Берне*

Людзі, якія адракаюцца ад сваёй радзімы, адракаюцца тым самым і ад свайго сумлення.

*Я. Галан*

# ЗАЎСЁДЫ Ў ПЕРШЫХ ШАРЭНГАХ

Фронт стаяў тады на рацэ Бебжы, і жнівеньскае начное неба 1944 года яшчэ расквечвалі ніці трасіруючых куляў, што выпускалі часці проціпаветранай абароны Савецкай Арміі ў абмотаныя пасмамі пражэктараў фашысцкія самалёты, а ўжо рабочыя Міхалова па ўласнай ініцыятыве саматуж выграбалі з попелу і вугалля абгарэўшыя часткі ткацкіх станкоў. І якая ж была радасць у **Міхала Сечкі, Вольгі, Галічка, Пятра Ліцвіна, Юліі Савіцкай, Пятра і Міхала Фільяновічаў** ды горстачкі іншых пачынальнікаў міхалоўскай фабрыкі, калі на першым, што рушыў на вызваленай Беласточчыне, ткацкім станку жвава забегаў чаўнок, і на навой пачалі навівацца першыя цядзі тканіны! Людзі абступілі машыну, не спускалі вачэй з берда, якое адбівала міліметр за міліметрам сукно, што сёння мы б палічылі непачэснай дзяругай. Але ў той цяжкі час яно здалося міхалоўскім тонкасуконнікам самым далікатным, прыгожым і каштоўным на зямлі матэрыялам. Яны асцярожна краналі яго пальцамі, любоўна гладзілі далонямі...



Перадавы ткач Тадэуш Майтас з „Сяржана" (прадпрыемства „А" на вуліцы Аўгустоўскай у Беластоку) сказаў мне: *„Пасля мадэрнізацыі нашай фабрыкі пераходжу з двух кросен да працы на чатырох кроснах. Павялічыцца вытворчасць, будуць яшчэ лепшыя тканіны, а гэта я люблю..."*

Такім быў пачатак усіх чатырох фабрык, што сёння ўваходзяць у **Беластоцкія прадпрыемствы ваўнянай прамысловасці імя Сяржана.** За чатыры месяцы 1944 г. яны далі краіне 13,4 тысячы метраў тканін, у 1945 г. — ужо 440 тысяч метраў, а годам пазней — звыш аднаго мільёна метраў. Адбудова беластоцкай ваўнянай прамысловасці ішла аж да 1950 г., у якім вытворчасць дасягнула двух мільёнаў метраў тканіны.

У той жа час не толькі справы адбудовы сваіх прадпрыемстваў займалі беластоцкіх тэкстыльшчыкаў. У пачатку 1945 г. па заклiку Ваяводскага камітэта ППР і Акруговага савета прафсаюзаў шмат працаўнікоў „Сяржана" прымала ўдзел у дзейнасці г.зв. апаратыўных груп. Яны адразу пасля вызвалення Заходніх зямель забяспечвалі там дзяржаўную маёмасць, наладжвалі сувязь з мясцовымі рабочымі, кіравалі адбудовай і запускам прамысловых прадпрыемстваў. Між іншым, адна з такіх груп на чале з **Ю. Маславецкім** і **У. Яблонскім** пусціла ў ход ваўняныя камбінаты ў Зялёнай Гуры. А час быў пераломны. Тэкстыльшчыкі па заклiку партыі і ўраду дапамагалі праводзіць зямельную рэформу, перайманць на ўласнасць дзяржавы прамысловасць, утрымоўваць бяспеку і спакой, словам, яны клалі трывалы падмурак народнай улады. І супраць іх накіравала свае стрэлы рэакцыйнае падполле. Ноччу 5 лютага 1946 г. у Міхалова ўварвалася банда, ад яе куляў загінула некалькі чалавек, а сярод іх выдатны палітычны і грамадскі дзеяч, дырэктар міхалоўскай фабрыкі **Іосіф Сяржан,** імя якога сёння носяць Беластоцкія прадпрыемствы ваўнянай прамысловасці.

Сёння прадпрыемствы „Сяржана" выпускаюць у год звыш 3,5 мільёна метраў тканін 180 відаў і 240 узораў. За 30 год сваёй працы з іх станкоў сышло 82 мільёны метраў матэрыялаў на паліто, касцюмы, пледы; значыць, яны апранулі з галавы да пят тры разы ўсіх грамадзян нашай краіны. З году ў год павялічваецца колькасць і павышаецца якасць іх вытворчасці. 85 прац. тканін з „Сяржана" паступае на швейныя прадпрыемствы „Сава" ў Варшаве, „Дана" ў Шчэціне, „Пiліца" ў Та-

(Працяг на стар. 4)

**Новыя вершы**

### СТОЛ

*Ён стаяў на покуце, кляновы,*
*Са шчарбінкамі, старэнькі, быў.*
*Але хоць шчарбаты, хоць не новы —*
*З намі ён дружыў*
*І нам служыў.*

*Ставіла на ім, бывала, маці*
*У мундзірах бульбы чыгунок.*
*Слалася на сцены, на палаці*
*Пара цёплая, нібы дымок.*

*Хрумсткія гуркі там пахлі кропам,*
*Лісцямі дубовымі — расол.*
*І нязменным быў у маці клопат,*
*Чым яшчэ аздобіць бедны стол.*

*Раніцай святочнаю аладкі*
*Нам, бывала, з печы дастае,*
*Не было вялікага дастатку,*
*Не было раскошы на стале.*

*Толькі на вялікдзень, на каляды*
*Не журбоціўся, крывы, стары;*
*Весяліўся, быў ён вельмі рады,*
*Хоць ты ў карагод яго бяры.*

*Калі ж хто памрэ — дык, небарача,*
*Мне здавалася, і ён заплача,*
*У бядзе прыгорбіцца ён сам...*

*З дзён маленства стол кляновы бачу:*
*Ён мне першы вершык напісаў.*

**Антон Бялевіч**

НА ШЛЯХУ ДА ПЕРАМОГІ




З лета 1943 года, з таго часу як зблізіла нас вайна на Курскай дузе, нямала цяжкіх дарог прайшоў я з палком Андрэя Макарава. Арлоўшчына. Бранскія лясы. Беларусь...

А 12 студзеня, калі нашы войскі, выручаючы саюзнікаў, якія апынуліся ў цяжкім становішчы ў Ардэнах, з вісленскіх плацдармаў перайшлі ў магутны наступ, я зноў аказаўся ў сваіх знаёмых баявых сяброў, у 447-м палку 397-й стралковай дывізіі. Ламаючы палосы доўгатэрміновых абарончых умацаванняў праціўніка, полк Андрэя Макарава крок за крокам, кіламетр за кіламетрам упарта і няспынна ішоў наперад.



*Першыя дні пасля вызвалення на вуліцах Варшавы.*

На фронце радысты заўсёды раней за іншых дазнаваліся пра навіны. Вось і ў тую імжыстую марозную раніцу першым абвясціў нам прыемную вестку знаёмы сержант вузла сувязі: „Таварышы карэспандэнты, сам чуў — нашы ў Варшаве!"

**Быць у якіх сарака кіламетрах ад Варшавы** і не завітаць туды — не, гэтага мы сабе ніколі б не даравалі! Полк Макарава пайшоў далей на захад, а мы з Мікалаем Анісімавым, таварышам па франтавых паходах, не раздумваючы, павярнулі на поўнач.

У тую раніцу на пустой шашы старэнькая рэдакцыйная палутарка была ледзь не адзінай машынай, што імчала ў напрамку Варшавы парожняком.

— Возьмем спадарожнікаў? — прапанаваў мне Мікалай, які сядзеў у кабіне.

Ледзь пачуўшы, што Варшава свабод-

(Працяг на стар. 4)

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"**





### Гадзіннік з курантам на вежы бельскай ратушы

Ужо 1 мая гэтага года ўпершыню прагучыць падляшская мелодыя з вежы ратушы (сядзіба Гарадскога ўпраўлення) ў Бельску.

Бяльчане будуць чуць біццё гадзінніка кожныя паўгадзіны і, апрача таго, кожную гадзіну з вежы ратушы будзе плысці мелодыя куранта.

Тэкст і фота
**Я. Цялушэцкага**

 

 

# „Ой ложо, ложо, хто на тобе ляжа?..“



Сустрэчы з беларускай вуснай народнай творчасцю на Беласточчыне — гэта заўсёды незабыўныя ўражанні і ўсё новыя адкрыцці. А было іх у мяне ўжо некалькі дзесяткаў. Затрымаюся на адной з апошніх паездак, калі глыбокай восенню мінулага года я трапіў у вёску **Навасёлкі**, што знаходзіцца ў Беластоцкім павеце там, дзе ў раку Супрасль упадае рэчка Слоя і дзе на захадзе і поўначы ад вёскі прасціраюцца рэшткі колішніх Блудаўскай і Крынкаўскай пушчаў. Маляўнічы куточак з багатым мінулым і спакойным, працавітым сённяшнім днём.

Непадалёк тут праходзіў колішні гасцінец з Драгічына, Бельска і Нарвы ў Гродна, па якім снавалі не толькі купцы, але праязджалі і шумныя каралеўскія світы. Не загасла таксама памяць аб „напалеонаўскім“ тракце, дзе ў спякотнае лета 1812 года ўздымаў пыл шматтысячны корпус маршала Нэя, каб неўзабаве ў сіберную зіму вяртацца сюдою ж бясформеннай масай абмарожаных недабіткаў і тут знайсці магілу ад казацкіх шабляў. Памятны камень на гары Анны і крыж ва ўрочышчы Перацёсы значаць магілы загінуўшых тут у 1863 годзе паўстанцаў. З першых дзён нямецкай акупацыі і аж да вызвалення Беласточчыны ў навакольных лясных масівах мелі свае базы атрады савецкіх партызанаў.

Якія б нягоды не перавальваліся гэтай мясцінай, яна кожны раз адраджалася з папялішчаў, з восені ў восень рунела жыта на яе загонах, а роснымі чэрвеньскімі раніцамі дзяцюкі ды мужчыны мянцілі звонкія косы на сенажацях.

Праўда, сёння ўжо не выходзяць тут спеўнай чарадою дзяўчаты з сярпамі ў жытняе поле і не валакуцца валы з сахою на папар — грукат трактара, тарахценне касілак і снапавязалак заглушылі колішнія зыкі. Замест курных хатаў радуюць вока акуратныя і прасторныя, добра абсталяваныя сучаснай мэбляй дамы. Але тутэйшыя людзі ўмеюць цаніць і шанаваць бясцэнныя здабыткі культуры мінулага — беларускія народныя песні. Яны не толькі захоўваюць даўнішнія, але і памнажаюць гэтую скарбніцу новымі творамі. Жывы працэс народнай творчасці тут не спыніўся.

**Надзеі Грыцук** і **Марыі Юровец** — самым слаўным навасёлкаўскім спявачкам — не трэба было нават паясняць,



*Народныя спявачкі з Навасёлкаў: Надзея Грыцук (справа) і Марыя Юровец.*

чаму і нашто я збіраю народныя песні. Яны даскана ўсведамляюць каштоўнасць гэтых твораў. „Вы з „Нівы“? — запыталіся яны. „З „Нівы“, — кажу. „Калі так, дык настаўляйце сваю машынерыю — спяваць будзем...“ І на магнетафонную стужку пачалі класціся мелодыі адна прыгажэйшая за другую.

Сярод іх былі песні гадавога каляндарнага крута (валачобныя і асеннія), сямейнага цыкла (хрысцінныя і вясельныя), знайшліся любоўныя і жартоўныя — разам пятнаццаць твораў.

Многія з іх — гэта красачнае водгулле сівой мінуўшчыны. Напрыклад, веснавая *„Па зялёнум садзе паванька хадзіла...“* калісьці ўваходзіла ў „рэпертуар“ велікодных валачобнікаў і з'яўляецца гімнам супружаскаму згоднаму жыццю маладой пары, іх „беламу ложу“:

*Ой ложо, ложо, хто на тобе ляжа?*
*а бадай жа, хто на тобе ляжа?*
*Ой, зыдзя, зыдзя месячык з зарою,*
*а бадай жа, месячык з зарою.*
*Ой, ляжа, ляжа хлопец з дзеўчыною,*
*А бадай жа, хлопец з дзеўчыною.*

Або такі, падкупаючы сваёй прастатой абразок сялянскага жыцця з мінулага, што знаходзім у асенняй песні *„Ой, гараў Сямён край дарогі...“* Гараўды на свае валы пагукваў: *„Гэй, цоп, цэба-рэба, тпруць!“*, а торбу з полуднем павесіў на суку бярозы. Непадалёк дзяўчаты грыку рвалі, і яны, гарэзы, узялі ды ўкралі торбу. І вось пайшоў Сямён гукаючы, ды:

*Ён свае торбы шукаючы,*
*гэй, цоп, цэба-рэба, тпруць!*

І ўсё. Але на колькі рэалістычны і маляўнічы гэты абразок!

У хрысціннай *„Цераз сад сцяжэнька...“* муж не сцярпеў, што жонка валочыцца з малойцамі па карчомках, парадкам яе вылаяў. А тая, не доўга думаючы, прытварылася мёртваю. Скораспелы ўдавец зараз жа падумаў аб жаніцьбе і пачаў перабіраць сярод дзяўчат, што ішлі праважаць на могілкі цела яго жонкі. Адно дзеці-малалеткі пачалі плакаць:

*— А дзе ж бо нам, сіротанькам,*
*свае маткі узяць?*
*Ані нам купіці,*
*ані зарабіці —*
*пабярэмся за ручэнькі*
*дай пойдзям служыці.*

І гэтая шчырая роспач узрушыла мацярынскае сэрца. Яна абазвалася з труны. Няма чаго і казаць, як радаваліся дзеці, але муж на тое:

*— Міла, мая міла,*
*яка непраўдзіва:*
*ты ж казала, што ты ўмерла,*
*а ты ешчэ жыва!*

Якая шчырая жыццёвая праўда гучыць у гэтай незамысловатай песні!

У Навасёлках не супраць уволю пасмяяцца з неахайнай гультайкі-гаспадыні (*„Ох, хай, ох-ха-ха! Што за гаспадыня...“*), якая не патрапіць спячы хлеба, едкім слаўцом абмаляваць Сымонку-самагоншчыка, што:

*...агоньчык раскладае*
*і так сабе развaжае:*
*„Давядзецца пацягнуць!“*

Але вось:

*Нішчаслівая гадзіна —*
*задрыжаў ён, як асіна, —*
*ззаду стаіць міліцыянт!*
*Ага!*
*— Забірай, Сымон, рыштунак,*
*паязджай на пастарунак.*

Прыгадаў я ўсяго пяць твораў. Ці іншыя дзесяць менш цікавыя? О, не! Кожны з іх — гэта бясцэнны дыямент, што ірдзіцца вясёлкавымі колерамі арыгінальнага народнага мастацтва і заваражвае сваёй непасрэднасцю і шчырасцю, як вось у песні *„Ой, у полі тры крынічанькі...“*, напрыклад, уздыхпажаданне засядзелай у старых дзевах паненкі:

*Ах Божа ж мой Збавіцелю,*
*зрабі міне маладзіцаю:*
*мне дзевіцай надакучыло,*
*мае сэрца перамучыло.*

Цудоўна!

**Мікалай Гайдук**
**Фота аўтара**



## Слова аб беларускай літаратурнай крытыцы

Станаўленне новай беларускай літаратуры ў палавіне XIX ст. і яе далейшае развіццё прыцягвала ўвагу многіх даследчыкаў. Асновы навуковаму вывучэнню гісторыка-літаратурнага працэсу на Беларусі ў XIX ст. праклаў В.В. Барысенка, які ў 1957 годзе апублікаваў манаграфію *„Францішак Багушэвіч і праблема рэалізму ў беларускай літаратуры XIX ст.“*. Пасля паявіліся працы М. Р. Ларчанкі *„На шляхах да рэалізму“* (1958) і ў наступным годзе *„Па шляху рэалізму“*. М. А. Лазарук заняўся вывучэннем *„Станаўлення беларускай паэмы“* і яе далейшым развіццём у другой палавіне XIX і пачатку XX стагоддзяў, чаму прысвяціў аж дзве кніжкі. М. М. Грынчык заняўся распрацоўкай фальклорных традыцый у беларускай дакастрычніцкай паэзіі, а І. Я. Навуменка прысвяціў свае манаграфіі народным беларускім песнярам — Янку Купалу і Якубу Коласу. Калі да гэтых даследаванняў дадаць яшчэ грунтоўную працу Сцяпана Александровіча „Пуцявіны роднага слова“ і двухтомнік „Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры“, дык атрымаем даволі поўны вобраз гэтага шляху, якім беларуская літаратура выйшла на шырокія еўрапейскія гоні.

Новая беларуская літаратура фарміравалася пад непасрэдным уплывам перш за ўсё дзвюх суседскіх вялікіх славянскіх культур — рускай і польскай. Менавіта на Беларусі гэтыя культуры ўзаемна перакрыжоўваліся, сутыкаліся і ўступалі ў цесныя кантакты. Кожны, хаця крыху адукаваны беларус, апрача сваёй роднай, добра ведаў рускую і польскую мовы. Першапачынальнікі беларускай літаратуры Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, Аляксандр Рыпінскі, Уладзіслаў Сыракомля былі выхаваны на традыцыях польскай літаратуры і перш за ўсё прыналежаць да яе. Іх следам пайшоў В. Дунін-Марцінкевіч. Усе яны з'яўляліся паклоннікамі таленту Адама Міцкевіча.

Магчыма таму першай працай аб беларуска-польскіх літаратурных узаемасувязях з'явілася манаграфія А. А. Лойкі *„Адам Міцкевіч і беларуская літаратура“* (1958). Затым гэты ж аўтар супольна з Н. С. Перкіным выдаў кніжку *„Беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі ў XIX ст“*. Іх слядамі пайшоў Адам Мальдзіс, які шмат пісаў у перыядычным друку аб сваіх пошуках архіўных матэрыялаў, што сведчылі б аб нашых узаемных уплывах і кантактах. У выніку гэтага з'явіліся яго кніжкі *„Творчае пабрацімства“* (1966), „Падарожжа ў XIX стагоддзе“, „Традыцыі польскага асветніцтва ў беларускай літаратуры XIX ст.“ (1972) і артыкулы ў калектыўных выданнях — *„Садружнасць літаратур“* і *„Старонкі літаратурных сувязей“*. Гэтымі праблемамі цікавіліся таксама: Сцяпан Александровіч (кніжкі *„Старонкі братняй дружбы“* (1960) і *„Гісторыя і сучаснасць“* (1970), І. С. Бас (*„Падарожжа ў літаратурнае мінулае“* (1971) і Г. В. Кісялёў (*Сейбіты вечнага“* (1963), *„З думай пра Беларусь“* (1966), Валянціна Гапава вывучала жыццё і творчасць Элізы Ажэшка.

У палавіне 1974 г. паявілася яшчэ адна каштоўная праца, прысвечаная беларуска-польскім літаратурным сувязям. Гэта кніжка Уладзіміра Казберука *„Старонкі росту. Беларуская літаратура канца XIX — пачатку XX ст. і традыцыі польскіх пісьменнікаў“*.

Даследчык прасочвае ступені росту беларускай літаратуры і гаворыць чытачу шмат арыгінальных, даўней прапушчаных рэчаў, перш за ўсё яго даследаванні заснаваны на поўнай аб'ектыўнасці. Асобны раздзел прысвячае ён адлюстраванню беларускай тэматыкі ў творах Элізы Ажэшка. Знаходзім тут найбольш поўны ў беларускім літаратуразнаўстве аналіз гэтых апавяданняў, навел і аповесцей аўтара *„Дзюрдзяў“*, у якіх героямі з'яўляюцца беларусы. Некаторыя сцвярджэнні Казберука могуць выклікаць засцярогі, як для прыкладу тое, што ў „Дзюрдзях“ *„сацыяльныя праблемы застаюцца па-за ўвагай пісьменніцы“* (стар. 60.), што замест арыгіналу Казбярук разглядае сцэнічную апрацоўку аповесці „Хам“, дзе нават імёны герояў зменены. Гэтае самае адносіцца і да аналізу навелы *„У зімовы вечар“*. Пятруся — гераіня аповесці „Дзюрдзі“ — ходзіць у Казбярука ў царкву, калі ў сапраўднасці бывае яна ў касцёле, бо ўсе беларускія сяляне на старонках Ажэшкавых твораў, як правіла, з'яўляюцца каталікамі.

Важнейшымі аднак ад гэтых хібаў з'яўляюцца старонкі Казбяруковай кніжкі, на якіх ён разглядае ўзаемасувязі беларускіх і польскіх пісьменнікаў. „Э. Ажэшка побач з А. Міцкевічам, У. Сыракомлем і М. Канапніцкай належаць да найбольш папулярных польскіх пісьменнікаў у Беларусі“, — сцвярджае аўтар на стар. 78. Творчасці Марыі Канапніцкай і яе ўспрыманню на Беларусі даследчык прысвячае асобны раздзел. Затым ён піша аб творчай пераклічцы іншых польскіх і беларускіх пісьменнікаў, аб традыцыях польскага рамантызму ў беларускай літаратуры. Кніжка выкрывае шмат новых з'яў у галіне польска-беларускіх літаратурных кантактаў і ў гэтым заключаецца яе асноўная вартасць.

*Віктар Рудчык*

## Наша галерэя



*Мінск. Барэльеф помніка-абеліска воінам Савецкай Арміі і партызанам, загінуўшым у час Вялікай Айчыннай вайны (1941-45 г.г.).*



 

(Працяг са стар. 1)

## ЗАЎСЁДЫ Ў ПЕРШЫХ ШАРЭНГАХ

машове Мазавецкім, многа ідзе на экспарт у СССР, Японію, Канаду, скандынаўскія краіны. У роўнай ступені польскі, як і замежны пакупнік высока цэніць беластоцкія вырабы. І гэта не выпадкова. У „Сяржана" працуюць такія выдатныя перадавікі вытворчасці, як ткачы **Т. Майтас, С. Валесюк, М. Казлоўскі, М. Баркоўская, Т. Панасевіч,** прадзільшчыцы **Г. Рагоўская, Я. Дамброўская,** а таксама **М. Куклінская, В. Класоўская, С. Акрушка** і шэраг іншых. Зрэшты, кожны сярод 2 300 працаўнікоў прадпрыемства дастойны прызнання: няспыннае павышэнне эканамічных эфектаў ставіць калектыў „Сяржана" ў лік вядучых прадпрыемстваў ваўнянай прамысловасці ў краіне. Для прыкладу, у мінулым годзе ў гонар 30-годдзя ПНР сяржанаўцы прынялі на сябе абавязацельствы даставіць звыш плана на ўнутраны рынак вытворчасці на 3,5 мільёна злотых, а даставілі на звыш 5 мільёнаў злотых. Абавязаліся таксама паправіць гаспадарку сыравінай і іншымі матэрыяламі, каб дабіцца 4,8 мільёна злотых дадатковага эканамічнага эфекту, а дабіліся 7,3 мільёна злотых.

У пачатку месяца лютага бягучага года ў адказ на заклік ЦК ПАРП і Ўрада ПНР, уключаючыся ў грамадскі і вытворчы ўздым напярэдадні VII з'езду партыі, калектыў „Сяржана" абавязаўся шляхам паляпшэння тэхналогіі і арганізацыі працы зберагчы 21,3 тон сыравіны, а з яе ў выніку павышэння прадукцыйнасці працы выпусціць 19,8 тон пражы. Гэта дасць 26 тысяч метраў гатовай тканіны вартасцю ў 5 мільёнаў злотых. Уся звышпланавая прадукцыя — гэта самыя сучасныя тканіны, якія карыстаюцца вялікім попытам на рынку. Калектыў абавязаўся таксама скараціць на адзін месяц працэс мадэрнізацыі прадпрыемства „А" ў Беластоку, а моладзь „Сяржана" пад кіраўніцтвам ЗМС — адпрацаваць на працягу года 2 500 гадзін на карысць горада.

Прадпрыемства дбае пра сваіх працаўнікоў, няспынна паляпшае іх сацыяльна-бытавыя ўмовы. За кошт многіх мільёнаў злотых пабудаваны дзіцячы сад, цэнтр адпачынку ў Аўгустове на 230 месц, абсталяваны амбулаторыі, прадуктовыя кіёскі, раздзявальні і г.д. Цяпер як на паўночна-ўсходняй акраіне Беластока ўзводзіцца коштам 2 мільярдаў злотых новы, самы сучасны тэкстыльны камбінат, абсталяваны па апошняму слову тэхнікі. У яго пяройдуць у 1978 г. працаваць калектывы са старых сяржанаўскіх фабрык з вуліцы Леніна і Влукенніцай. Старыя аб'екты адслужылі ўжо сваё, яны будуць ліквідаваны. Новы тонкасуконны камбінат будзе выпускаць высакаякасныя тканіны, што маюць вялікі попыт у краіне і за граніцай.

Заслужаны для ўсёй нашай краіны „Сяржан", як заўсёды, крочыць у першых шарэнгах перадавікоў вытворчасці, тэхнічнага прагрэсу і грамадскай працы.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

(Працяг са стар. 1)

ная, па ўзбочынах шашы з клункамі і чамаданамі ў руках, рукзакамі за спіной, з хатнім набыткам, прывязаным да рам веласіпедаў, брыло мноства мужчын, жанчын, дзяцей. Бежанцы-варшавяне вярталіся дадому.

— Спыняй машыну! — згадзіўся я.

Мікалай звярнуўся да людзей, і тыя радасныя, узбуджаныя, расчырванелыя ці то ад няёмкасці, ці ад марозу — палезлі ў кузаў, наперабой стараліся загаварыць са мной, паціскалі рукі, смяяліся, плакалі ад шчасця. А я, як на грэх, не мог ні слова сказаць па-польску. Як жа падзяліць з гэтымі людзьмі іх радасць вяртання ў родны горад? Як павіншаваць з вызваленнем Варшавы?! Раптам успомніў — я ж ведаю мелодыю польскага гімна!..

Уступіўшы жанчынам з дзецьмі месца ля кабіны, я прыціснуўся спіной да борта, падняў каўнер паўкажушка, каб прыкрыць твар ад студзёнага сустрэчнага ветру, і ціхенька пачаў напяваць гэтую мелодыю.

Хвіліну-другую прыціхлыя спадарожнікі, нібы збянтэжаныя, моўчкі глядзелі на мяне. Пасля, усміхаючыся, усе разам загаварылі: „Добжэ! Бардзо добжэ, пан афіцэр!.." — і пачалі падпяваць. Машына імчалася да Варшавы, і цяпер ужо не толькі мелодыя, але і словы гімна поўнілі наваколле, прымушалі азірацца тых, каго мы, на жаль, не маглі забраць у перапоўнены кузаў.

Гімн змяніўся вясёлай „Варшавянкай", потым усе дружна падхапілі нашу „Кацюшу". Так мы і не заўважылі, як наблізіліся да прадмесця Варшавы.

Песня абарвалася. З невыказаным болем у вачах мае спадарожнікі моўчкі азіраліся. Маўчаў і я.

Горада не было. Мне давялося не раз бачыць сляды фашысцкага гаспадарання на нашай зямлі — разбураныя Арол і Гомель, спалены Мінск, але падобнае я ўбачыў упершыню. Уздоўж вуліцы, па якой мы ехалі, узвышаліся толькі мёртвыя, з пустымі аконнымі праёмамі каменныя глыбы, якія цяжка было назваць дамамі. Мы ехалі каля гадзіны, спачатку нейкімі захламленымі вузкімі вулачкамі ўскраін, пасля па вядомай Маршалкоўскай, і не бачылі ніводнага ўцалелага дома — усюды толькі куродым, шчэбень, пусткі ды руіны.

У цэнтры горада сустрэлі салдат Войска Польскага, якія з боем увайшлі ў Варшаву па ільду Віслы з Прагі, усходняга прыгарада сталіцы. На вачах у




многіх былі слезы. Мы віталі таварышаў па зброі, віншавалі з перамогай. Развіталіся з падарожнікамі і, не затрымліваючыся збочылі на Сахачоў даганяць наступаючае войска. Фронт спяшаўся вярнуць шматпакутнай Польшчы ўсе гарады і сёлы.

Польская зямля. За яе свабоду і незалежнасць савецкія салдаты змагаліся самааддана, як і за сваю родную. Франтавыя газеты кожны дзень расказвалі пра подзвігі авіятараў, танкістаў, пехацінцаў і сапёраў, артылерыстаў і коннікаў...

У баях за польскую вёску Гарасімовічэ гераічна загінуў савецкі салдат Рыгор Кунавін. Ён першы ўварваўся на вуліцы паселішча, якое фашысцкія факельшчыкі спрабавалі падпаліць з усіх бакоў. Салдат страляў да апошняга патрона, ратуючы жыццё, прытулак, маёмасць польскіх сялян. Як пазней паведамілі нашы газеты, жыхары вёскі ў знак падзякі пастанавілі занесці імя савецкага воіна Рыгора Паўлавіча Кунавіна навечна ў спісы ганаровых грамадзян вёскі Герасімовічэ, высечы яго на мармуровай пліце ў цэнтры вёскі, прысвоіць яго імя сельскай школе і першы ўрок у пачатку навучальнага года прысвяціць расказу пра мужнасць і высакароднасць салдата краіны Саветаў. „Няхай паслухаюць дзеці расказ стоячы, — гаварылася ў пастанове сходу мясцовых жыхароў. — Няхай іх сэрцы напоўняцца гонарам за рускага брата, няхай свядомае жыццё пачнецца з думкамі аб братэрстве польскага і савецкага народаў".

Ва ўпартых баях на вуліцах горада Шнайдэмюля некалькім воінам на чале з лейтэнантам Ігарам Сакольскім удалося адбіць у ворага не квартал, не перакрыжаванне вуліц — усяго толькі адзін жылы дом. Двое сутак яны ўтрымлівалі яго, адбіваючы незлічоныя контратакі праціўніка. Патроны і ежу перадавалі адзін аднаму з паверха на паверх у кацялках, якія апускалі па тэлефонным провадзе з акна ў акно. Раны перавязвалі шматкамі ад сваіх сарочак. І выстаялі, не дазволілі фашыстам спаліць і падарваць гэты дом, які пазней мясцовыя жыхары назвалі „Цытадэллю адважных". Радзіма высока ацаніла мужнасць маладога афіцэра Ігара Сакольскага ў баях за вызваленне Польшчы ад фашысцкіх захопнікаў. Яму было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Героямі Савецкага Саюза на польскай зямлі сталі мае сябры з 397-ай стралковай дывізіі — камандзір палка Андрэй Макараў, камбаты Мікалай Акішын, Сцяпан Арцёменка, з якімі я сустрэўся зноў неўзабаве пасля паездкі ў Варшаву. З імі я ішоў да Одэра — апошняга рубяжа перад штурмам Берліна.

Недзе ўжо 28 або 29 студзеня надвячоркам перад намі адкрыўся свінцоваішэры Одэр.

**А. Белашэеў**
Ваенны журналіст



У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ

*Калі павялічыліся цэны за бутэлькі, ужо на другі дзень немагчыма было змясціць у Стараляўкоўскім магазіне гэтага тавару.*

*Фота Я. Цялушэцкага.*

## У Клімковічах

Партыйная арганізацыя ў вёсцы Клімковічы з'яўляецца найактыўнейшай у Мілейчыцкай гміне Сямяціцкага павету. Па яе ініцыятыве вёска прыступіла да конкурсу „Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная". Усе жыхары шмат працавалі пры рамонце дарогі Клімковічы — Касцюковічы і пасадзілі 300 дэкаратыўных дрэўцаў. У мінулым годзе на аднаго гаспадара прыпадала грамадскіх чыноў на суму 2940 зл. У гэтай жа вёсцы дзве сям'і заквaліфікаваліся на ўзорных гаспадароў. З'яўляюцца імі Лявон і Галіна Высоцкія, а таксама Уладзімір і Вольга Ярашэвічы.

(мх)

## Беларуская літаратура

АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

## Нашаніўская пара

**МАКСІМ БАГДАНОВІЧ**
**ЧАСТКА XXXIX**

**Літаратурная крытыка.** Нашаніўскі перыяд беларускай літаратуры заняў, несумненна, галоўную пазіцыю ў папулярна-навуковых даследаваннях Багдановіча. Да гэтых публікацый залічаем артыкулы: „Глыбы і слаі", „За тры гады", „Белорусское возрождение", „Новый период в истории белорусской литературы".

Сучасны беларускі даследчык Л. Фіглоўская, разглядаючы ролю „Нашай нівы" ў развіцці беларускай літаратуры, даказвае, што беларускія пісьменнікі тыпу Купалы, Коласа і Багдановіча не мелі нічога супольнага з афіцыйнай ідэалогіяй гэтага тыднёвіка, а калі з ім супрацоўнічалі, дык толькі таму, што ў дарэвалюцыйны перыяд не было іншага беларускага тыднёвіка. Фіглоўская піша:

„У „Нашай ніве" друкаваліся творы Цёткі, Бядулі, Багдановіча, Гартнага, Журбы, Гурло, Буйла. На старонках газеты былі змешчаны творы Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Аднак было б неабгрунтаваным, шкодным пераўвялічваць ролю гэтай газеты, якая нібыта заклала асновы новай беларускай мастацкай літаратуры. Калі б гэта было так, тады афіцыяльная ідэалогія газеты вызначала б асноўную лінію развіцця беларускай літаратуры, г.зн. рэвалюцыйна-дэмакратычны напрамак. Аднак агульнавядома, што прадстаўнікі рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку прытрымоўваліся процілеглых поглядаў. У процівагу ідэолагам „Нашай нівы" яны выступалі за „зямлю і волю", за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне прыгнечанага народа шляхам узброенай барацьбы". (Л.І. Фіглоўская, Творчасць Якуба Коласа, Мінск 1959, с. 25).

Вымова артыкула Фіглоўскай такая: Багдановіч быў праціўнікам афіцыйнай ідэалогіі „Нашай нівы" і змагаўся з ёю. Варта цяпер затрымацца над галоўнымі выказваннямі Багдановіча, каб пераканацца, што гэты пісьменнік ніколі і ў ніякай меры не супрацьстаўляў сябе ні выдаўцам „Нашай нівы", ні яе афіцыйнаму ідэйнаму напрамку. Пяройдзем да фактаў. У артыкуле „Новый период в истории белорусской литературы", які быў першы раз апублікаваны ў Зборы твораў з 1928 года, Багдановіч пісаў: „Существовала лишь небольшая группа лиц, наиболее энергичные члены которой сплотились вокруг „Нашей нивы". Эти лица и вынесли на своих плечах всю тяжесть шестилетнего издания газеты. Благодаря им даже только что пережитые нами томительные годы общественного развала не являются пустым местом в истории белорусского народа".

У іншым месцы гэтага ж артыкула Багдановіч яшчэ больш прыхільна характарызуе людзей, якія акрэслілі характар „Нашай нівы". Паводле Багдановіча, „Лица, сплотившиеся вокруг „Нашей нивы", выросли в народе, от народа не оторвались, им известны народные нужды и народные язвы, близка психика народа: они знают народ и народ знает их, — знает и верит им".

У артыкуле „Белорусское возрождение", апублікаваным у часопісе „Украинская жизнь", 1915 г., № 1,2, Багдановіч дае надзвычай глыбокую і прыхільную характарыстыку ўсіх галін дзейнасці „Нашай нівы", усіх аспектаў яе ідэалогіі. Праўда, крытык падкрэслівае, што „Наша ніва" была газетай больш умеранай, чым „Наша доля", але якраз гэтая ўмеранасць ратавала яе ад драконскіх удараў царскай цэнзуры.

Характарыстыка „Нашай нівы", дадзеная Багдановічам, гэта характарыстыка чалавека, улюбёнага ў гэты часопіс. Паслухайма:

„... „Наша нива" вела неустанную просветительную работу. Ставя своей целью всестороннее возрождение белорусской народной культуры и, следовательно, твердо стоя на **определённой демократической позиции,** (падкрэслена А. Б.) она пробила себе дорогу в самые глухие уголки Белоруссии, в самые тёмные слои населения. Для многих тысяч людей она явилась первой газетой, прочитанной ими, первым источником знания, не носившим казённой печати, изложенным простым и ясным языком. К белорусскому крестьянину, сжившемуся с мыслью, что он — хам, а его „мова" — хамская. „Наша нива" печатно обратилась на этой „мове", вызывая в нём тем самым уважение и к ней и к себе самому, пробуждая в нём чувство собственного достоинства. В белорусском крае, истерзанном национальной борьбой, „Наша нива" неустанно напоминала о необходимости чтить права каждого народа, ценить всякую культуру и, закрепляя свои национальные устои, широко пользоваться приобретениями культуры как польской, так и великорусской и украинской. Это, а также многое другое, следует постоянно иметь в виду, учитывая значение скромной еженедельной газетки, размером в один печатный лист".

Так, тут не можа быць ніякіх сумненняў. Багдановіч цалкам атоесамліваецца з ідэалогіяй і практыкай „Нашай нівы", падтрымоўвае іх, бярэ на сябе за іх адказнасць, цешыцца імі. На якой падставе ў такой сітуацыі крытык супрацьстаўляе Багдановіча „Нашай ніве", невядома.

НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

## ЯН РЭЦЬКО



Вучань трэцяга класа Агульнаадукацыйнага ліцэя імя М. Каперніка ў Саколцы Ян Рэцько з'яўляецца адным з лепшых бегуноў у павеце. Бегае ён на дыстанцыях 800, 1500 і 3000 метраў. На міжшкольных спаборніцтвах у Беластоку заняў ён пятае месца. Прабег дыстанцыю паўтара кіламетра ў чатыры мінуты. Праходзіць ён трэніроўкі пад кірункам трэнераў Міраслава Савіцкага і Яна Залеўскага.

Добрую фізічную падрыхтоўку прадэманстраваў Ян Рэцько ў пачатку гэтага года на занятках у трэніровачным лагеры ў Цешыне.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

Краіне патрэбен гераізм, які праяўляецца ў добрай працы, у перавыконванні сваіх заданняў. У гэтай публікацыі пойдзе гутарка пра вясковых маладых людзей, якіх не звабілі спакусы гарадскога жыцця, якія працуюць на сваіх гаспадарках і дабіваюцца высокіх паказчыкаў у сельскагаспадарчай вытворчасці. А вось некаторыя з іх: Бусловіч Іван з вёскі Аўгустова, які нарадзіўся ў 1952 годзе; жыве і працуе ён на гаспадарцы разам са сваёй маці. Будуе вялікія сучасныя хлявы, каб можна было яшчэ лепш развіваць жывёлагадоўлю. У мінулым годзе дабіўся ён таксама высокіх ураджаяў на сваіх палях. З 1 га атрымаў 27 цэнтнераў збожжа. Прадаў дзяржаве ў 1974 г. 2 тоны мяса. Было ў яго ў мінулым годзе 13 штук буйнай рагатай жывёлы. Сёлета запланаваў ён трымаць 17 штук быдла, прадаць дзяржаве 2,5 тоны мяса і 11 тыс. літраў малака ды павялічыць ураджай збожжа да 29 цэнтнераў з 1 га. За гэтымі лікамі крыецца цяжкая праца маладога селяніна.

# РЭКОРДЫ МАЛАДЫХ

Але цяжкая праца многа не дасць на гаспадарцы, калі селянін не будзе мець сельскагаспадарчых ведаў. Іван Бусловіч мае гэтыя веды і многа ўмее. Гаспадарка яго складаецца з 10 га ворнай зямлі і 4 га зялёных угоддзяў. Апрацаваць зямлю: належна яе ўгноіць, засеяць добрым сеўным матэрыялам і сабраць сельскагаспадарчыя культуры ў найлепшым агратэхнічным тэрміне; развіваць жывёлагадоўлю, рацыянальна выкарыстоўваць корм — усё гэта не такая простая справа. Адным словам, праца на гаспадарцы становіцца прафесіяй, як і іншыя прафесіі.

Багдану Маркоўскаму з Дабраміля 22 гады. Асабліва ў жывёлагадоўлі дабіўся ён рэкордных вынікаў. Перад новым годам стаяла ў яго хлявах 27 штук буйнай рагатай жывёлы. У мінулым 1974 годзе прадаў ён дзяржаве 6200 кг мяса. Ураджай збожжа быў добры: 30 цэнтнераў з 1 га. Паказчыкі гэтыя пакуль што рэкордныя. Але яны зусім не сведчаць аб тым, што вычарпаны тут усе магчымасці. Механізацыя ўсіх работ — вось што гарантуе яшчэ вышэйшы ўзровень сельскагаспадарчай культуры.

Рыгор Сцепанюк з Кожына на 7 гектарах зямельных угоддзяў гадуе 18 штук быдла. У іншых галінах сельскай гаспадаркі таксама ў яго высокія паказчыкі.

Як бачым, моладзь дае прыклад. Моладзь вучыцца ад старэйшых, а пасля абганяе іх. На Бельшчыне такіх перадавых маладых гаспадароў ужо ёсць 78. Зразумела, што з кожным годам колькасць іх будзе значна павялічвацца.

Павятовае праўленне Саюза сацыялістычнай вясковай моладзі, якое ўзначальвае Юрка Лявоцюк, актывіст БГКТ, нядаўна арганізавала з гэтых маладых перадавых гаспадароў клуб гадоўцаў быдла. На спецыяльнай нарадзе з прадстаўнікамі павятовых улад і сельскагаспадарчай службы запэўнена ім была апека і дапамога гмінаў і начальнікаў гмін. Важна, што член гэтага клуба будзе мець падтрымку ў мясцовых улад ва ўсіх яго патрэбах, а яго дасягненні будуць служыць прыкладам для іншых, якія змогуць выкарыстаць вопыт з карысцю для сваёй гаспадаркі.

**Міхась Хмялеўскі**

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### ТРЭНІРУЙЦЕ МОЗГ

Супрацоўнікі Інстытута педагогікі Венскага універсітэта на працягу доўгага часу вывучалі працэсы, якія адбываюцца ў мозгу чалавека к старасці.

Яны прыйшлі да вываду, што нетрэніраваны, бяздзейны мозг старэе значна хутчэй, чым мозг, які працуе, нясе пэўную натрузку. І што яшчэ важна: чым раней пачнецца такая духоўная трэніроўка і чым даўжэй яна будзе працягвацца, тым менцая небяспека старэння мазгавых клетак.

Венскія вучоныя лічаць, што ў старасці ў чалавека зніжаецца толькі скорасць засваення ведаў, а не сама здольнасць да заснавання, не змяншаецца і інтэлект.

### ДАЦЬ МЫШЭЙ

Калі карысць малака каровы бясспрэчна, а „птушынае малако“ вядзе нас у свет фантазіі, то малако, якое напэўна з'яўляецца самым дарагім у свеце, карыстаецца вялікім попытам у спецыялістаў. Як паведамляе статыстычнае ўпраўленне швейцарскага горада Бёрна, кошт літра гэтага каштоўнага малака дасягае 40 з лішнім швейцарскіх франкаў. Гутарка ідзе пра... мышынае малако, якое прымяняецца ў біялагічных і медыцынскіх даследаваннях.

### БЕЗ ПЕРАКУРАЎ

Англійская фірма Дэйл Электрык у Лідсе запрасіла сваіх рабочых і служачых прыняць удзел у конкурсе пад дэвізам „Кідай курыць!“ Пераможцаў чакалі прэміі, якія напярэдадні Новага года былі ўручаны 98 чалавекам з 140, якія вытрымалі выпрабаванне і адгукнуліся на заклік праўлення фірмы. Бо тыя, хто кінуў курыць, перасталі губляць час на перакуры. Сэканомленыя чалавека-гадзіны фірма выкарыстоўвала для дадатковай работы на канвееры.




*Ой, да там у полі*
*Бэроза стояла.*
*Маті свого сына*
*З дому выправляла.*
*Выправляла з дому*
*Шчэ й новэі хаты:*
*— Іді, іді, сыну,*
*В нэшчасны солдаты.*
*Іді, іді, сыну,*
*Довго нэ бавісе —*
*За рочок за другі*
*Додому вэрнісе.*
*Прошов ужэ рочок,*
*Наступае другі —*
*Вэрнувсе додому*
*Мой сыночок любы:*
*— Ой, чы рада, мамо,*
*Ой, чы рада мною?*
*Ой, чы рада мною,*
*Моею жэною?*
*— Рада, сынку, рада,*
*Рада я й тобою,*
*Ано я нэ рада*
*Твоею жэною.*
*Посаділа сына,*
*Дала піті, есті,*
*Сказала нэвіестці*
*На порозі сесті.*
*Сама вышла з хаты,*
*Довго забавілась.*
*Молодые деті*
*З жалю потрутілісь.*
*Вэрнулась дохаты,*
*Рукі заломіла:*
*— Ой, Божэ мой, Божэ,*
*Што я наробіла!*
*Поховала сына,*
*В зэленом садочку,*
*Молоду нэвіестку —*
*В городі, в куточку.*
*Посаділа сыну*
*Чырвону каліну,*
*Молодэй нэвіестці —*
*Горку чэрэмшыну*
*Чырвона каліна*
*Стала посыхаті,*
*Чорна чэрэмшына*
*Стала росцвітаті.*

**Ад Валянціны Здрайкоўскай, 1930 года нараджэння, вёска Шчыты Бельскага павету, запісаў 8 кастрычніка 1974 г. Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіла Людміла Панько.**

ЯК Я БЫЛА Ў БАЦЕНЬКА
ТО Я БЫЛА ЧУБАЦЕНЬКА;
ДАСТАЛАСЯ ДА СВЯКРУХІ,
ТО АБ'ЕЛІ ЧУБОК МУХІ.

*(з народнай песні)*



## Вучнёўская спулдзельня

Выдатна ідуць справы ў маладой прадаўшчыцы Данусі Бяганскай — вучаніцы трэцяга класа Агульнаадукацыйнага ліцэя імя М. Каперніка ў Саколцы. Дзякуючы яе ўмеламу абслугоўванню пакупнікоў спулдзельня „Юпітэр“ прадае розных тавараў за 10-15 тысяч злотых у месяц.

Варта дадаць, што спулдзельня наладзіла цеснае супрацоўніцтва з „Практычнай паняй“ і цяпер арганізуе для ўсіх ахвотных школьнікаў курсы пісання на машыне, кравецкія і кулінарныя курсы.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні імпартных выданняў „Дома кнігі“ ў Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Алесь Бачыла,** Тры багіні, 1973, стар. 128, цана 6 зл. 40 гр.

Новая кніга пісьменніка. У яе ўвайшлі вершы і паэма, напісаныя ў апошнія гады. Паэма „Хмары над бухтай“ прысвечана постаці класіка беларускай лірыкі Максіма Багдановіча.

**Леанід Прокша,** Стрэлы над ярам, 1974, стар. 88, цана 1 зл. 60 гр.

Алёша Сянкевіч і Юра Вішнякоў у першыя гады пасля рэвалюцыі і грамадзянскай вайны ліквідуюць у горадзе над Дзвіной банду злачынцаў. Займальная аповесць для маладога чытача.

**Чаравікі-самаскокі,** 1972, цана 1 зл. 10 гр.

Англійская народная казка ў беларускім перакладзе А. Чаркасава і з каляровымі малюнкамі Н. Паплаўскай. Выдадзена ў цыкле „Казка за казкай“.

**Бена Плудра,** Боцман на крызе, 1973, стар. 160, цана 3 зл. 70 гр.

Тры маленькія аповесці („Боцман на крызе“, „Лют Машэн і Белая ракавінка“ і „Падарожжа ў Зундзевіт“) вядомага нямецкага дзіцячага пісьменніка ў перакладзе на беларускую мову С. Міхальчука і з ілюстрацыямі Г. Мазурына. Займальны свет дзяцей з прыморскага нямецкага гарадка.

Кнігарня высылае таксама кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу:

**„Dom Książki“ 15-089 Białystok, ul. Kilińskiego 10.**

(мг)

# ВЕР-НЕ ВЕР

**Сёння падаем рысы характару і выгляд, характэрныя для людзей, што нарадзіліся паміж 19 — 28/29 лютага і 24 жніўня — 2 верасня.**

## САСНА

Сасна мае прыгожы сілуэт, наогул прыгожая. Сасна ўмее паказваць свае добрыя бакі. Любіць дом, каштоўныя прадметы, прыгожае ўнутранае прыбранне хаты. Часта, зрэшты, мае прыроджаную ўмеласць да гэтага. Мілы дом, без якога не ўмела б поўнасцю развіцца, умее стварыць сабе сама. Аб сасне гавораць, што яна ведае, чаго хоча, што не даецца несці сябе жыццю, што не хапае ёй толькі таго, што магло б яно прынесці ёй само.

У сасне няма нічога пасіўнага: умее яна планаваць, прыстасоўваць умовы да ўласных патрэб.

Адважная, супярэчнасці прымае з высока паднятай галавой і не дазваляе ім перамагчы яе. Сасна не баіцца рызыкі, яна смелая. Увесь час ідзе наперад. На рабоце ўмее дабіцца поспеху незалежна ад галіны, якой яна прысвяціла сябе.

Сасна вельмі адпорная — цяжка яе збіць з дарогі, паколькі ўмее яна выйсці сухою з найбольш клапатлівага становішча. Яна хуткая і дзейнасць яе заўсёды дае добрыя вынікі.

Нягледзячы на тое, што сасна бывае прыязная і можна ў яе асобе знайсці мілага сябру, то не бывае ані занадта ўслужная, ані занадта гойная. Вышэй за ўсё цэніць яна сабе ўласную выгаду. Непрыемнасці і няўдачы іншых людзей не выбіваюць яе са сну, хаця здараецца, што часам напамінае яна аб іх са спачуваннем у сяброўскіх размовах.

У адным толькі праяўляе яна сваю слабасць — у каханні. Сасна бывае імпульсіўная, вельмі хутка можа закахацца, а пасля ўжо запозна бывае на адступленне.

Пры ўсім гэтым яе розум бывае празорны. Сасна часта бывае добрым арганізатарам. Патрапіць дасягнуць пастаўленай перад сабой мэты, калі толькі мае адпаведнага партнёра, які не разбурыць усёй гэтай прыгожай будоўлі. Але нават з няўдач у каханні сасна ўмее выйсці ганарова.

Знак сасны асабліва карысны для жанчын.

**Астрон**

# Сардэчныя тайны

**Дарагое „Сэрцайка“!**

Выйшла я замуж у суседнюю вёску. Калі муж мой, Валодзя, прыязджаў да мяне яшчэ нарачоным, сяброўкі з зайздрасцю спазіралі на нас. Меў добрую гаспадарку, мураваны вялікі дом. Адзін у бацькоў, сястра выйшла замуж і жыве ў горадзе. Але цёшча была супраць нашага шлюбу. Яна сабе іншую нявестку ўгледзела. Валодзя маці не паслухаў. А яна не любіла, калі нешта рабілася не па яе думцы. І калі я да іх прыйшла, цёшча адразу за мяне і ўзялася. Ніяк я ёй дагадзіць не магла: не так зрабіла, не тое купіла і мноства іншага. А пачалося яшчэ горшае, калі Валодзя надумаўся перайсці на работу ў горад. Штодзённа даязджаў. А я была супраць, бо і на гаспадарцы, калі толкам яе весці, работы хапае. Але цёшча на грошы вельмі ласая, адразу за ім прытакнула. Грошы, казала, заробіш ды пасля працы і ў гаспадарцы паможаш. Але не так яно выйшла. Валодзя часта вяртаўся дамоў п'яны, траціў грошы, гаспадаркай не цікавіўся. Я на яго сварылася, прасіла, каб пакінуў працу ў горадзе, каб за гаспадарку ўзяўся. А цёшча сына бараніла. Згнявала мяне гэта ўрэшце і я, забраўшы дзіця, пайшла да сваіх бацькоў. Ужо мінуў год, як я тут жыву. І вось нядаўна Валодзя прыехаў да мяне і прасіў, каб я вярнулася. Абяцаў, што звольніцца з працы ў горадзе ды аддзеліцца ад цесцяў. Дом вялікі, ёсць такая магчымасць. Я б ахвотна вярнулася, але баюся, што ізноў цёшча будзе ўмешвацца ў нашы справы. А як ты, „Сэрцайка“, параіш?

**Ірэна з Бельшчыны**

Ірэна! Вярнуцца ты павінна. Не адзіны гэта выпадак, калі бацькі, а пераважна маці, не хочуць зразумець, што калі ажаніўся сын, дык становіцца ён зусім самастойным чалавекам. Бацькі павінны маладымі кіраваць вельмі дыскрэтна, з-за раздору часта гаспадарка не толькі не развіваецца далей, але і нішчыць тое, што нажылося раней. Калі Валодзя робіць захады, каб з табой пагадзіцца, дык і ты павінна зрабіць усё, каб жыць разам. Сям'я ж — справа найважнейшая. Маеце дзіця, а яно патрабуе бацькоў. А цёшча, калі будзе жыць асобна, не будзе ўжо столькі ўмешвацца ў вашы справы.

**„Сэрцайка“**

# Куток практычных парад




## „СВІНКА“ І АДПОРНАСЦЬ НА ЯЕ

Вядома, што „свінка“, у асноўным дзіцячая хвароба, дае трывалую адпорнасць. Аднак часта ў дзяцей, якія ўжо хварэлі „свінкай“, не адзін раз выступае пухліна за вушамі, бываюць болі пры ядзе, павышаная тэмпература, адным словам, тыповыя прызнакі „свінкі“.

Ці азначае гэта, што ў арганізме дзіцяці не паўстала адпорнасць на заразкі „свінкі“?

Папулярнай назвай „свінка“ называем эпідэмічнае запаленне слінных залоз (што знаходзяцца каля вушэй), выкліканыя вірусам. Сапраўды, адпорнасць пасля таго, як дзіця перанясе гэтую хваробу, з'яўляецца трывалай. Нягледзячы на гэта, падобныя прызнакі (пухліна, боль слінных залоз) могуць выступаць у дзіцяці шмат разоў. Справа ў тым, што запаленне слінных залоз можа мець розныя прычыны.

І так, напрыклад, вострае запаленне слінных залоз можа выступаць паўторна ў час такіх хвароб, як грып, шкарлятына, кор (одра), брушны тыф, запаленне лёгкіх. Тады выклікаецца яно найчасцей гнойнымі бактэрыямі.

Хранічнае запаленне слінных залоз можа быць аднабаковае або двухбаковае. Хвароба гэта характарызуецца пухлінай і болем слінных залоз, выступае яна шматразова і працягваецца ў лягчэйшых выпадках на працягу двух-трох дзён, у цяжкіх выпадках — нават некалькі тыдняў.

Часта прычынай паўтарэння гэтай хваробы з'яўляецца слінны камень у канале слінных залоз, які трэба ліквідаваць. Часамі, калі запаленне слінных залоз паўтараецца вельмі часта і цягнецца доўга, нягледзячы на прымяненне антыбіётыку, трэба нават цалкам выразаць слінную залозу. Прымаючы пад увагу шматлікія магчымасці захворванняў, якія датычацца слінных залоз, у кожным выпадку, калі ў дзіцяці ў другі раз распазнаюць „свінку“, неабходна зрабіць дзіцяці ларынгалагічныя доследы ў доктара.

**Эскулап**

# § Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Я з'яўляюся інвалідам, залічаным камісіяй да II групы. Інваліднасць паўстала, калі мне было 2 гады, а цяпер мне 47 год. Жыву з бацькамі, якія атрымоўваюць 1300 зл. пенсіі за перададзеную дзяржаве зямлю. Я атрымоўваю 700 зл. успамогі, якую мне прызначае гміннае ўпраўленне кожныя паўгода. Ці ёсць магчымасць, каб я атрымала ўспамогу да канца жыцця? Ці буду я атрымоўваць успамогу, калі б я змяніла месца пражывання, г.зн., калі б пражывала ў сястры ў горадзе?

АДКАЗ: Інвалідная пенсія прыслугоўвае толькі асобам, якія страцілі здароўе ў няшчасным выпадку падчас працы, калі працаўнік застрахаваны, або прызнана інвалідная група пасля перапрацавання адпаведнага часу. Людзям, якія з'яўляюцца інвалідамі ад дзяцінства і ніколі не працавалі, пенсія не прыслугоўвае. Гэткім людзям, калі яны не маюць сродкаў да жыцця, нашыя ўлады прызнаюць успамогу — як правіла, на акрэслены перыяд часу. Толькі да ўлад належыць ацэнка, ці даная асоба з'яўляецца ў недастатку. Гміннае ўпраўленне прызнае дапамогу людзям, якія пастаянна пражываюць на абшары цэлай гміны. Калі асоба, якая атрымоўвае ўспамогу, зменіць месца пражывання, павінна старацца атрымаць успамогу на новым месцы пражывання, прычым улады гэтага месца пражывання не звязаны рашэннем гміннага ўпраўлення, якое дагэтуль выплачвала ўспамогу.

# Этнаграфічнае акенца



*Вёска Сушча Беластоцкага павету.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

# САКРАТ ЯНОВІЧ
# СЯРЭБРАНЫ ЯЗДОК

Жанчына прачнулася позна, з тупым зрокам. Так прачынаюцца стомленыя ды шмат чаго перажыўшыя ў жыцці.

— Добры дзень вам, — азваўся да яе першым. Яна зглядзела Вільдовіча.

Ён змёрз і цяпер шпарка красаў агонь, каб распаліць у печы.

Сказала да яго:

— Я абавязана выясніць вам... — і, замаўчаўшы, падала яму манету. З дрыжыкамі няпэўнасці ў руцэ.

— Сярэбраны яздок! — усміхнуўся Вільдовіч. — Ясна. Манета застанецца ў мяне, так дамоўлена з Макарэвічам... — непатрэбна назваў прозвішча: „Гэта ад радасці, ад доўгага чакання“, — апраўдаўся перад самым сабою. Незадаволена нахмурыўся.

— Вы знаёмы з панам Макарэвічам?! — здзівілася яна; ужо верыла старому.

— Гм, — ні то пацвердзіў, ні то запярэчыў Адам Вільдовіч. — Уставайце, будзем есці. — Выйшаў у камору і памарудзіў там добры кавалак часу, каб жанчына магла ўстаць з пасцелі ды ўладкавацца.

Загатавалася гарбата, духмяны адвар з ліпавага цвету.

Селі снедаць: чорны, здаровы хлеб, вэнджаная дзічына, сушаная плоць, мочаныя яблыкі, квашаныя агуркі, а да іх — дзікі мёд.

— Чым хата багата, — запрашаў Вільдовіч. Яна была ахвотная. „Стары, а дурны! — лаяў сябе. — На халеру я расклаў агонь, распаліў печ, паказаў, што хата не пустая... — удумаўся. — Агонь, ці без агню — якая розніца? Калі тут круціўся шпіён, дык ён, відаць, за ёю і валокся...“

— Ах, як хочацца есці! — засмяялася яна. У ёй адчувалася тая тонкая прастата, з якою гавораць на дачах культурныя паненкі.

Ела лакомліва, але мала.

— Я ненадоўга, — Вільдовіч устаў. — Выбачце мне. І, калі ласка, ешце яшчэ, ешце...

Рушыў у лес. Увайшоўшы ў яго, ён з паўтадзіны прастаяў паблізу ўскраіны, пільна ловячы вухам гукі ды водзячы за імі вачыма. Вяртаўся назад, робячы выгляд чалавека зморанага хадзьбою. Кіраваўся без выбару, паўз снежныя гурбы, на садок. Абы карацей!

Пад вішнямі — натоптана, сляды пагопалі адсюль да рэдкалесся ля Чортавага луга. Яны адтуль і з'явіліся — невыразныя, прысыпаныя снегам, што нападаў уначы.

Уцякаць! Вільдовіч сціснуў стрэльбу. „Ён жа мог назіраць за намі, знаходзячыся ў гусцесенькім маладняку! Чаму палез амаль пад вокны? — разважаў. — Будзе ён: або свежа звербаваным і таму пакуль мала вопытным шпікам пана паліцмайстра, або кімсьці з гродзенскай, ці нават віленскай паліцыі, які кінуў бавіцца ў тайнасць, устанавіўшы галоўнае — месца кур'ера, мэту! І зараз, мабыць, прабіраецца ён у Саколку альбо ў Беласток, каб ладзіць арышт нас, зблізку пазнаёміўшыся з размяшчэннем...“

З коміна — ледзь відавочны дым.

За сталом — вочы здагадлівыя і разумныя.

— Прыгожы дзень, — сказаў да вачэй, абы сказаць.

Стрэльбу паставіў ля акна.

— Ах, як тут спакойна! — хутчэй да сябе, чым да яго...

Уздрыгануў, валахата прыгледзеўся да яе.

Яна гаварыла далей:

— У Вільні, ведаеце, кашмар...

Перабіў яе:

— Перастаньце! Я не хачу ведаць, адкуль вы і хто. Так трэба, — палагадпеў: „Чаго я, дурыла, крычу на яе?! Нервы бяруць, халера! Абрастаю страхам!...“

Марыя Грыгатовіч пачырванела.

— Выбачайце, — прамовіла.

Заціхлі: па дарозе, ад вёскі, праехалі сані.

— Возьмеце мой кажух — зіма на свеце! У вашым — адно на баль хадзіць... — Вільдовіч не ўмеў тлумачыць па чарзе.

...Выйдуць яны з хаты, як толькі сцямнее.

— Вы прыехалі па тры словы: „Пугачоў у лесе няма“. Паўтарыце іх таму, хто вас выслаў сюды, — абазначала гэта: друкарня нявыкрыта, сховы падрыхтаваныя.

— Гэта ўсё? — запытала.

— Не забудзьце, — адказаў ёй не ў тон.

— Макарэвічу? — яе роспыты ірытавалі!

Вільдовіч адвярнуўся.

Сказаў недаказанае:

— ...На досвітку дойдзем да паўстанку ў Васількове, на віленскі цягнік.

— Добра, — яна не ўяўляе, які гэта шмат дарогі!

— Змяніце зачоску. Дам вам даўжэйшую хусту, каб выглядалі старэй... — нечакана адлягла злосць. — За вамі могуць сачыць!

Зрэнкі яе вачэй заблішчэлі шкляным бляскам. Ён запрыкмеціў гэта, але не зразумеў, чаго засмуцілася яна. Прадчувае благое?

— Галоўнае, не баяцца! — гаварыў, быццам збіраючыся паведаць пра адну са сваіх надзвычайных, паляўніцкіх прыгодаў.

„Няўжо здагадваецца яна, што здарылася нешта небяспечнае? — хваляваўся ляснік. — Бывае, бывае...“

Прысела на зэдліку ды цыруе шкар-

# ТРЫБУНА чытачоў

## Каляды

На каляды моладзь сяла Крывяцічы арганізавала музыкі. Было многа моладзі з суседніх сёл. Добра іграў аркестр з Беластока. Старым звычаем дзеці і моладзь калядавалі з рознакаляровымі звёздамі.

**Іван Кірызюк**




### ПАДЛЯШША

Дзе такая другая краіна,
У якой прыгажэйша каліна?
Дзе такі іншы край,
У якім весялейшы май?

Дзе чырванейшыя маліны,
Дзе прыгажэйшыя дзяўчыны?
Дзе голас салаўя выразней звініць
І лес зялёны галасней шуміць?

У нас і лісце залацістае віруе,
І вецер паўночны танцуе,
І месяц свеціць ночкаю ярчэй,
І дзень за днём плывуць хутчэй.

Калі ты будзеш далёка ад айчыны,
Успомні ты свой дом радзімы.
Нівы, лугі і зялёныя лясы,
Поўныя чароўнае красы.

**Ірэна Грыгарук,**
Бельскі беларускі ліцэй,
клас 1ц

### КАЛЯДЫ

*Як штогод, у хату*
*Прыйшло зімовае свята.*
*А са святам прыйшлі гульні*
*Ў кожнай хаце, у кожнай клуні.*
*Усе гуляюць — карнавал!*
*Смех ляціць аж да павал.*
*Маладыя патанцуюць*
*А старыя пашкадуюць,*
*Што у іх няма ўжо сілы.*
*Ах, няможна — рэўматызм,*
*Каб жа ты, хамула, скіс!*
*Так старыя наракаюць.*
*Маладыя жа спяваюць,*
*Ходзяць ад хаты да хаты*
*І бяруць сабе заплаты.*
*Хто дасць кішку,*
*Хто дасць мяса,*
*Ў каго знойдуцца каўбасы.*
*Потым ў хаце сабраліся*
*І гарэлкі напіліся.*

**Валянцін Антанюк**

### УСЁ МІНАЕ

Мінае, мінае усё,
отходыт потыху,
отходыт помалу
ў далекі, нэзнаны свіет.
Одышло, одышло ў тумановi
ў далекі свіет,
Ужэ нэма ёго.
Одышло ўсё бэз сліеду.

**Толік**

## ПР у Пяньках

У мінулым годзе ў Пяньках паўстаў калектыў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (ПР). Апекуном яго з'яўляецца інструктар сельскагаспадарчай службы гміны ў Міхалове — Тэрэса Чарняўская. Калектыў апрацоўвае цяпер праграму II ступені. У ім 17 чалавек. Яшчэ III ступень, і многія рашылі запісацца ў тэлевізійны сельскагаспадарчы тэхнікум.

Заняткі ў ПР-ы адбываюцца ў кожны аўторак. Цікавыя гэта лекцыі, часта дэманструюцца тут фільмы. Напрыклад, у апошні час былі фільмы „Сучасны спосаб вырошчвання бульбы" і „Як сеяць збожжа".

На лекцыі прыходзіць вельмі многа людзей, якія і не належаць да калектыву ПР, але цікавяць іх тэмы, з якіх многа могуць даведацца.

У мінулым годзе дружына ПР з Пянькоў заняла трэцяе месца на міжгміннай алімпіядзе сельскагаспадарчых ведаў. Атрымала дыплом і рэчавыя ўзнагароды.

Веды, якія людзі атрымліваюць у калектыве, прымяняюць у працы, а вынікаў доўга чакаць не трэба — павялічылася жывёлагадоўля. Прытым удзельнікі ПР маюць першынства ў куплі цялят пароды „НЦБ".

Наш калектыў ПР утрымлівае сувязь з сельскагаспадарчым тэхнікумам у Дайлідах. Бываем у іх і многаму вучымся.

Найлепшым членам калектыву за мінулы год былі прызнаны грашовыя ўзнагароды. Атрымалі іх Яўген Новік, Аляксандр Бельскі, Іван Ваўрэнюк і Уладзімір Азябла.

Сёлета прадбачыцца экскурсія ў горы, або на мора.

**ОзВ**

## Дайце пары!

У Гайнаўцы ёсць публічная лазня, якая належыць да Гайнаўскага прадпрыемства драўніннай прамысловасці. У лазню прыходзяць працаўнікі прадпрыемства і жыхары горада. Усё было б добра, каб наглядчык лазні дбаў пра сваю працу.

Паводле плана, кожную другую суботу наглядчык лазні павінен напаліць у печы, каб зрабіць пару. Як толькі прыдзе зіма, наглядчык печаў не топіць, а наведвальнікам адказвае, што няма сухіх дроў. Дровы ў лазню дае ГЗПД, а ў іх столькі дроў, што хапіла б на кожны дзень паліць у лазні, а не толькі 2 разы ў месяц. Бяда адна, што дровы самі не хочуць прыйсці ў лазню, трэба па іх паехаць, а наглядчыку лазні не хочацца. Дык пары няма.

Ад імя ўсіх наведвальнікаў гайнаўскай лазні прашу дырэкцыю ГЗПД звярнуць увагу на гэты недахоп і загадаць каму трэба, каб пара ў лазні была кожную другую суботу.

**Раса**





## „МОЖАЦЕ ДА НАС ПРЫХОДЗІЦЬ!"

Сталовая ў Орлі мае дрэнную славу. Калі трапіць сюды падарожны і закажа сабе абед, дык няхай ведае, што час чакання будзе доўгі. Калі ногі не баляць, лепш прагуляцца па арлянскіх вуліцах, пакуль пададуць абед. Тут можна, як кажуць, з голаду памерці, а што з нервамі чалавека дзеецца, дык няма што і гаварыць. А афіцыянткі пляткуюць паміж сабою. І калі знерваваны чалавек зверне ўвагу, каб хутчэй падавалі, пачуе адказ: „Можаце да нас не прыходзіць!"

**П. Дубовіч**

### ЁЛКА Ў ДУБІЧАХ

Навагодняя ёлка ў Дубічах Царкоўных адбылася ў святліцы. Настаўнікі мясцовай школы добра падрыхтавалі мастацкую праграму школьнікаў. Вучні спявалі песні, дэкламавалі вершы, прадстаўлялі гумарэскі.

Для самых малых найважнейшым быў Дзед Мароз, якога прывезлі фурманкай. Ён раздаваў падарункі. Немагчыма было пазнаць у ім Васіля Леанюка з суседняй вёскі Рутка, так добра ён іграў сваю ролю.

На заканчэнне адбылася школьная забава. Арганізатары добра працавалі, а найбольш бацькоўскі камітэт дубіцкай школы і настаўнікі Януш Шчэпаноўскі і Пётр Мілько.

**М. Панфілюк**

### ЖАНОЧЫ ГУРТОК У ВЯРСТКУ

У Гайнаўскім павеце закончыліся сходы, на якіх быў праведзены падлік працы за 1974 год у гуртках вясковых гаспадынь. Многія гурткі маюць чым пахваліцца. ПЗКР у Гайнаўцы ўзнагародзіў іх. Між іншым, узнагароду атрымалі гурткі ў Старыне, Доўтім Бродзе і Войнаўцы.

Праца ў гуртку ў многім залежыць ад актыўнасці членаў і старшыні. Вось адзін з лепшых гурткоў КГВ працуе ў вёсцы Вярсток (пошта Палічна). Шматгадовым старшынёй яго з'яўляецца Ангеліна Зольцман, дачка Івана. Яна вельмі многа часу ўдзяляе гуртку. Тут штогод рыхтуюць багатыя вечарыны ў сувязі са Святам жанчын, з Днём дзіцяці і г.д.

У мінулым годзе гурток у Вярстку арганізаваў паказальны курс па падрыхтоўцы смачных страў. У час асенніх дажджоў (а мінулай восенню іх не бракавала) Ангеліна Зольцман арганізавала дзяцінец. Калі мамы былі заняты капаннем бульбы, іх дзеці аставаліся пад апекай у дзяцінцы. Апекавалася і варыла ежу дзецям сама Ангеліна, бо не знайшлося ахвотных апекуноў. Частку цацак купіў сельгасгурток, а частку дала сама пані Ангеліна.

Таксама па ініцыятыве старшыні вярстоцкага гуртка КГВ у мінулым годзе быў арганізаваны курс па мясных вырабах. Станіслаў Каня з Гайнаўкі на некалькідзённым курсе навучыў жанчын рабіць смачныя вырабы з свінскага і цялячага мяса. Курс закончыўся супольным пачастункам пры гармоніку, на якім іграў мясцовы музыкант Уладзімір Дунда.

**(Н. В.)**

**Ад рэд.** Вельмі шкадуем, што не можам апублікаваць прысланых вамі здымкаў, яны тэхнічна не падыходзяць.

### ПЕСНІ Ў ЛАСІНЦЫ

Школьную ёлку доўга будуць помніць школьнікі і старэйшыя жыхары Ласінкі. У прыгожа прыбранай святліцы сабралася многа моладзі разам з татамі і мамамі. Звонка гучалі песні „Чорныя вочкі", „Не плач, девчонка", „Цячэ за гаем рэчка" і іншыя.

Самадзейнікі падрыхтавалі багатую праграму. Былі аднаактавыя сцэнкі, гумар, сатыра, вершы. Госці адчувалі сябе вельмі добра, усе былі задаволены. Аб гэтым сведчылі бурныя апладысменты і асабістая падзяка людзей арганізатарам, на чале якіх была настаўніца Нэлі Харкевіч.

**(вб)**

### ХТО ПАПРАВІЦЬ?

У канцы мінулага года і ў студзені гэтага амаль штодзённа праз Дубяжын вазілі жвір трактарамі і аўтамабілямі-самазваламі. Вазілі яго на рамонт дарог у суседнія вёскі і бельскаму будаўлянаму прадпрыемству. І вось бяда! Трактары і аўтамабілі так напсавалі дарогу, што цяпер ні прайсці, ні праехаць. З Падбелля ў Дубяжын ляжыць разбітая дарога на адрэзку 100-150 метраў. Найгорш у канцы вёскі на павароце — ля хаты Міколы Шэратухі. Тут можна ўтапіцца ў балоце. І абмінуць няма як. Жыхары Краснага Сяла, якія едуць на чыгуначны прыпынак у Падбелле, просяць дубяжынцаў, каб пазволілі праехаць сваёй сялібай.

Хто адрамантуе дарогу? У павеце гавораць, каб дубяжынцы направілі яе грамадскім чынам. А тыя — што гэта справа дарожных улад. А можа ўсё ж улады прызначаць некалькі машын ці трактараў для перавозкі жвіру на дубяжынскую дарогу? Напэўна і жыхары вёскі тады не адмовяцца ад дапамогі.

**Мацейка**

### У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### ЯК З ПРОДАЖАМ ВОЎНЫ?

**Адказвае:**

**PZGS „Samopomoc Chłopska" w Hajnówce Dział Skupu.**

W odpowiedzi na pismo Wasze z dnia 31.XII. 1974 r. w sprawie notatki prasowej, która ukazała się w prasie nr 49/80 z dnia 28.XII.1974 r., odnośnie stronniczej klasyfikacji wełny owczej przez punkt skupu surowców włókienniczych GS „Samopomoc Chłopska" w Kleszczelach, informujemy, iż po zbadaniu tego zagadnienia na miejscu w spółdzielni, okazało się, iż istotnie zdarzają się przypadki niezadowolenia wśród niektórych rolników na klasyfikację wełny, stosowaną przez brakarza punktu skupu Gminnej Spółdzielni.

Przypadki te są jednak sporadyczne i dostawca wełny może być niezadowolony z klasyfikacji brakarza, jeśli uzna, że dostarczona przez niego wełna w jego przekonaniu przedstawia wyższą wartość od wartości zadeklarowanej przez punkt skupu GS.

W takich przypadkach, jeśli obie strony nie mogą dojść do wspólnego porozumienia, rolnik, czując się pokrzywdzony, winien zgodnie z obowiązującą Uchwałą Zarządu Głównego CRS „Samopomoc Chłopska" w Warszawie nr 163/62 z dnia 6.VII.1962 r., zgłosić reklamację w punkcie skupu spółdzielni.

W związku z tym brakarz punktu skupu surowców włókienniczych winien podjąć następujące przedsięwzięcia:

a) punkt skupu zobowiązany jest wystawić zgłoszenie reklamacyjne, zabezpieczyć sporną partię wełny w zaszytych i zaplombowanych workach i zgłosić reklamację w Zarządzie GS,

b) Prezes GS powołuje w ciągu trzech dni od daty zgłoszenia komisję reklamacyjną w składzie:
- członek zarządu do spraw skupu (kierownik skupu),
- członek Rady Nadzorczej GS,
- fachowiec wełnoznawstwa z listy branżowej ustalonej przez WZHO.

c) postanowienie komisji w pełnym składzie jest obowiązujące,

d) obecność zgłaszającego reklamację przy rozpatrywaniu jego sprawy nie jest konieczna,

e) od decyzji komisji hodowca może odwołać się do Wojewódzkiej Komisji WZGS wówczas, gdy wartość sporu przekracza 1000 zł. W skład komisji tej wchodzą przedstawiciele WZGS, POSWł i SK oraz WZHO.

f) koszty udziału przedstawicieli ponoszą zainteresowane instytucje.

Ponieważ rolnik, o którym piszecie, pominął tak ważną sprawę, jaką jest zgłoszenie reklamacji, trudno więc określić, który punkt skupu klasyfikuje wełnę właściwie — Bielsk czy Kleszczele, bowiem jeden z nich leży poza zasięgiem naszego działania.

Oczywiście, zdajemy sobie sprawę z tego, iż dla rolnika najistotniejszym jest otrzymanie za wełnę jak najwyższej wartości, lecz z drugiej strony, musimy zdać sprawę również z tego, iż klasyfikacja i wycena wełny w GS odbywa się sposobem organoleptycznym tj. za pomocą wzroku, dotyku i powonienia, a wszelkie odchylenia przekraczające ustalony wskaźnik tolerancji obciążają brakarza. Niezależnie od powyższego, zobowiązano brakarza GS do właściwej klasyfikacji i wyceny wełny owczej zgodnie z obowiązującymi normami jakościowego odbioru, a w sprawach spornych do informowania rolników o możliwości zgłaszania reklamacji.

Wiceprezes d/s Obrotu Rolnego
(mgr inż. L. Bazyluk)

пэткі; спраўна. Стары ўзяўся шмараваць боты.

Марыя Грыгатовіч была ўпэўнена ў тым, што ўсё адбываецца шчасліва. Часамі задуменна пазірала некуды, уяўляючы сабе, з якім прыкрым уражаннем выйшаў тады ад яе Макарэвіч, гэты цудоўны чалавек і вялікі разумнік!

„Што схавана за словамі: Пугачоў у лесе няма? Якая гэта звестка? — пацікавілася ў думках. — Ну і баба я, баба! Пра ўсё мушу ведаць — што трэба і не трэба... Старэю".

Стары маўчаў аб чымсьці.

* * *

Сышчык прапаў. Дэпешы з Саколкі і Беластока — без спадзяваных звестак. Дасведчанне падказвала палкоўніку Лосеву, што два дні маўчання яшчэ аб нічым дрэнным не сведчыць. Бывала — і тыдзень чакалі сігналу.

Аднак жа, за голасам разважлівасці нашэптвала Лосеву таксама і пачуццё няўдачы. Ведаў, што дапрацаваўся інтуіцыі; за асобаю Марыі Грыгатовіч тоіцца, мабыць, вельмі важнае... Яна — гэта абяцаючая загадка!

„Тым болей трэба ж нешта рабіць! — ён пачаў асэнсоўваць значэнне выпадковасці якраз цяпер, калі патрэбна адваротнае, аналіз фактаў. Факты! — У паліцэйскай рабоце выпадкова прыкмечанае не раз прыводзіць да адкрыцця. Як гэта было з Грыгатовіч? Сышчык, атрымаўшы вольны дзень, выбраўся да знаёмых і, пераходзячы на другі бок вуліцы, убачыў жанчыну, якой пакланіўся малады мужчына. Нічога ў гэтым не было б надзвычайнага, калі б не тая акалічнасць, што гэты мужчына з'яўляўся западозраным намі ў сувязях з паўстанцамі. Мы па сённяшні дзень не выкрылі ягонага месца пражывання, ён пранырліва губіць за сабою нашага „хваста". Спрытнюга!

Сышчык, звычайна, пайшоў за жанчынаю, устанавіў яе адрас. І хоць таго мужчыну ён пасля ніколі не ўбачыў, але наткнуўся на іншага, не менш таемнага, які заходзіць да яе. Такім чынам, хто ведае, ці не трымаем мы ніточку да цэлага клубка?..." — прычасаўся, зайшоў у суседні пакой, каб перапрануцца па-цывільнаму.

Лосеў любіў паабедаць у рэстаране, сярод людзей, паслухаць нармальную гутарку. Іншы раз яму мроілася, што ён — памалу дурнее, ад дваццацігадовай службы.

Выбраў столік у куце — воддаль галаслівіла моладзь. Старэйшы, падпіты, расказваў забаўнае: едучы ў Беласток, за Саколкаю выскачыла з цягніка вясковая дзяўчына, уцякла ад нахабнага кавалера, які, на смех усім, не асмеліўся выскачыць за ёю, адно пабялеў ад абразы. Выскачыў, калі цягнік ужо набраў хуткасці, і смешна ўпаў у адхон, задраўшы ногі. Дзяўчына не дурніца, скакала ў тым месцы, дзе паравоз ледзь паўзе, пад гару...

Лосеў пакінуў есці катлету па-венску, паклаў на столік плату.

Ля тратуара спыніў ён фіякра, загадаў завезці яго на вакзал.

(Працяг будзе)




**Пазнаёмімся:**

„Вучуся ў I класе Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Каперніка ў Саколцы, жыву ў інтэрнаце. Цікаўлюся песнямі і фільмамі. Збіраю паштовыя маркі і фота актрыс і спевакоў — польскіх і замежных. Хачу перапісвацца з дзяўчатамі і хлопцамі з іншых школ. Мой адрас: Анна Макаль, ЛО ў Саколцы 16-100, вул. Міцкевіча 23а.

**Васіль Сахарчук, Сухавольцы,** піша: „Падзякуйце Васілю Петручуку за яго артыкул з 5.I.1975 пад загалоўкам „Заколядоваў". Ён нам вельмі спадабаўся. Мы яго чыталі ў святліцы, каб пачулі і тыя, хто не выпісвае „Нівы". Усім спадабаўся, нават была дыскусія, раўнялі мінулае з цяперашнім".

Рады мы такой ацэнцы нашага карэспандэнта. А баладу другі раз друкаваць няма патрэбы. Будзем друкаваць іншыя матэрыялы.

**Майка.** Замалёўку пра долю старых і верш „Камусь" надрукуем. Верш слабей дапрацаваны — у двух апошніх зваротках вы загубілі і страцілі рытм.

**Юрка Хмялеўскі, Варшава.** Вершы будзем друкаваць. Добра, што па-беларуску пачалі пісаць. Не разумеем слова „апошніх" адносна вершаў, апошніх па-беларуску ці апошніх увогуле?

NIWA Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Wydawca RSW „Prasa—Książka—Ruch" Indeks 36911/36671.

